№11(349) 22.03.2002 — 31.03.2002 Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

# Беларуская маладзёжная

Лінія ВАШЫХ навін (017) 289-12-12, абанент 6614

TV-программы на неделю

# Дзень волі-02

Традыцыйнае свята беларускай нацыянальнай апазіцыі — Дзень Волі — набывае арыгінальныя рысы. У гэтым годзе, у адрозненні ад папярэдніх, у Мінгарвыканкам не пададзеная заяўка на правядзенне традыцыйнага мітынгу і шэсця. Замест гэтага аргкамітэт па святкаванні Дня Волі-02 прапанаваў новую форму — так званага "Гайд Парку".

Адначэнні пройдуць у форме спантанных народных гулянняў у парку Янкі Купалы. Менавіта там 24 сакавіка людзі будуць ускладаць кветкі да помніка паэту, а маладняк — слухаць беларускіх рокераў. Упрыгожыць мерапрыемства сваёй прысутнасцю пагадзіліся Лявон Вольскі (N.R.M.), Слава Корань (УЛІС), бард Зміцер Бартосік і іншыя. Папулярныя сярод моладзі рок-гурты выступяць у акустычным варыянце.

Завершыць усё плануецца супольным выкананнем нованрынятага нацыянальнага гімну "Магутны Божа".

У той жа час адзначэнні пройдуць і ў іншых гарадах Беларусі — Гародні, Віцебску, Берасці, Пінску, Маладзечне і іншых. Як стала вядома, у горадзе над Нёмнам пададзеная заява на правядзенне шэсця з мітынгам у парку імя Жылібера. Пачнецца гарадзенская акцыя сінхронна з мінскай — апоўдні 24 сакавіка. У Гомелі мясцовых жыхароў уразяць рыцары і гурт старажытнай музыкі "Стары Ольса".

Як заявілі арганізатары Дня Волі-02, галоўны лейтматыў вясновай акцыі — святочнасць. "Мы хочам, каб жыхары Беларусі атрымалі аптымістычны зарад і адчулі, што Дзень Волі — гэта сапраўднае свята, годнае таго, каб стаць дзяржаўным" — заявілі яны.

Таксама аргкамітэтам па святкаванні прыняты зварот да грамадзянаў краіны.

Ул.інф.,
фота IREX/ProMedia



## Папярод цягніка
### Агляд заўтрашніх падзей

**22 сакавіка** Беларускае аб'яднанне маладых палітыкаў пры падтрымцы Фонда Ф. Эберта ладзіць круглы стол на тэму: "Лібералізацыя эканомікі Беларусі: праблемы і перспектывы". Мерапрыемства адбудзецца ў IBB (пр. газеты "Правда", 11 А). Пачатак а 18 гадзіне.

**24 сакавіка** грамадзяне ўскладуць кветкі да помнікаў Я. Купалы і Я. Коласа. Пачатак мерапрыемства ў 12 гадзін.

**25 сакавіка** ў чарговыя ўгодкі стварэння БНР у Доме ветэранаў (вул. Я. Купалы, 21) адбудзецца святочны сход. Пачатак у 17.00.

**27 сакавіка** Беларускае рэспубліканскае аб'яднанне «Аб'яднаны шлях» ладзіць семінар на тэму: "Працоўныя прававыя адносіны». Семінар адбудзецца па адрасе: г. Мінск, вул. Уральская, 3-30. Пачатак у 17.00. Даведкі і рэгістрацыя па мінскім тэл. 230-32-76.

**28 сакавіка** ў Бабруйску пройдзе другое паседжанне мясцовага прэс-клуба, якое ладзіць грамадская ініцыятыва "Свая справа" пры падтрымцы Праграмы Партнёрства Альянса Каунтэрпарт (CAP). Будзе абмяркоўвацца праблема захавання гісторыка-культурнай спадчыны Бабруйшчыны. Чакаецца, што гасцямі прэс-клуба будуць прадстаўнікі грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, спецыялісты па архітэктуры і ахове гістарычнай спадчыны. Атрымаць дадатковую інфармацыю і зрабіць заяўку на ўдзел можна ў Дзмітрыя Станюты: тэл. 217-77-73, 217-77-74, эл. п. stanuta@cap.gin.by http://cap.iatp.unibel.by

**ЭКАЛАГІЧНЫ ВАГОН**

**25 сакавіка** ў Горках адбудзецца чарговае паседжанне гарадскога прэс-клуба, прысвечанае экалагічным праблемам рэгіёна. Мерапрыемства пройдзе пры падтрымцы Праграмы Партнёрства Альянса Каунтэрпарт (CAP). Атрымаць дадатковую інфармацыю і зрабіць заяўку на ўдзел можна ў Дзмітрыя Станюты: тэл. 217-77-73, 217-77-74, эл. п. stanuta@cap.gin.by http://cap.iatp.unibel.by

**5-7 красавіка** Маладзёжны сацыяльны цэнтр "Майстэрня будучыні" пры падтрымцы БДФ "Дзецям Чарнобыля" і Міжнароднай Асацыяцыі гуманітарнага супрацоўніцтва ладзіць III фестываль-конкурс "Моладзь супраць экалагічнага гвалту".

**ВІРТУАЛЬНЫ ВАГОН**

**3 красавіка** з 16 да 19 гадзінаў на сайце АГП www.ucpb.org адбудзецца on-line канферэнцыя з лідэрам АГП Анатолем Лябедзькам.

**ПРЫЧАПНЫ ВАГОН**

У маі 2002 года плануецца правядзенне ў Касаве (Івацэвіцкі раён, Брэсцкая вобласць) гісторыка-культурнага фестывалю «Музычныя сцены».

Паведаміць аб жаданні далучыцца да ўдзелу ў фестывалі альбо атрымаць дадатковую інфармацыю можна па тэл.: (017) 228-18-22 — Павел Свярдлоў, (017) 224-52-11 — Аляксандр Дуко, (017) 233-92-25 — Дзіма Шаўчук, па e-mail: kossovo@tut.by ці ў клубе «Дзедзіч» (Брэст).

**ДАБРАЧЫННЫ ВАГОН**

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны абвясціла аб зборы ахвяраванняў на выданне беларускіх каляндарыкаў з партрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Ігната Дамейкі, а таксама на падпіску газеты "Наша слова" вясковым і школьным бібліятэкам, якія не маюць на гэта сродкаў. Грошы можна пералічваць на разліковы рахунак № 3015212330014 у МГД ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 764 альбо высылаць паштовым пераводам на адрас: ТБМ імя Ф. Скарыны, 220005 Мінск, вул. Румянцава, 13.

Падрыхтавала Г.Уласік, "БМ"

## НАВІНЫ

• 240 тысяч рублёў — столькі ад заяўнікаў мітынгу «За годнае жыццё, супраць жабрацтва і бяспраўя» запатрабавалі ўлады Пінску. А прэзідэнт ЗША збіраецца папрасіць у Кангрэса яшчэ 20 мільярдаў даляраў на працяг барацьбы з тэрарызмам.

*"Скажите, Шура, сколько вам нужно для полного счастья?"*

• Кампанія "Боінг" збіраецца закупіць у Расіі 18 тысяч авіяцыйных ракет класа "паветра-паветра". А экспрэсу "Берлін-Масква" перашкодзіла дабрацца да месца прызначэння сутыкненне з простым беларускім трактарам. Вадзіцель застаўся жывы.

*"А тот, который во мне сидит, я вижу — решил на таран!"*

• Мірна распачатая антыглабалісцкая дэманстрацыя ў Барселоне 16 сакавіка скончылася масавымі сутычкамі з паліцыяй і вулічнымі беспарадкамі па поўнай праграме — з выкарыстаннем "кактэйлю Молатава", гумавых куляў і слезацечнага газу. Арыштавана каля 2000 чалавек. А ў Беларусі 18 сакавіка адзначылі дзень унутраных войскаў.

*"На "разойтись" я, кстати, тут же согласился...И как разошелся — в смысле "расходился" ..."*

• Танзанійскія студэнты пачнуць вывучаць у беларускіх ВНУ медыцынскія і аграрныя навукі. А пакуль у выніку досыць пячорнай дапасяўной апрацоўкі глебы — вясновых палаў травы — на Беларусі загінулі тры чалавекі.

*"Come on, baby, light my fire!" — спяваў Джым Морысан.*

• Старшыня рады БНР у выгнанні Івонка Сурвіла павіншавала грамадзянаў Беларусі з Днём незалежнасці БНР. А Міністэрства замежных справаў Даніі прыняло рашэнне зачыніць сваю амбасаду ў Зімбабвэ.

*"Что-то меня Гондурас беспокоит..." — стары анекдот пра міжнародныя адносіны.*

• На выставе высокіх тэхналогіяў у Гановеры быў прэзентаваны новы кампакт-дыск, які можна нават згарнуць у трубку. А беларусы і на старых добрых кампакт-дысках з "пірацкімі" праграмамі не даплочваюць Захаду шалёныя бабкі — хаця падлікі ў сотні мільёнаў даляраў выглядаюць завышанымі.

*"А Козлевичу? А кто такой Козлевич?!" — дзялілі грошы героі Ільфа і Пятрова.*

• У Мексіцы пачаў працу міжнародны саміт па эканамічнай дапамозе бедным краінам "трэцяга свету". А ў той жа час Беларусь падтрымала пацярпелую ад урагану Кубу 15 тысячамі даляраў.

*"Спасение утопающих — дело рук самих утопающих!" — класічны лозунг.*

• А ў Мінску перавялі на платную аснову нават тэлефонную даведку. *І гэта ўжо не жартачкі...*

# Год в Германии

**Республиканская молодёжная общественная организация "Лига добровольного труда молодёжи" объявляет конкурсный набор на программу "Добровольный социальный год" в Германии.**

Коротко о программе:

— продолжительность программы: с 1 сентября 2002 г. по 31 августа 2003 г.;

— программа будет проходить в Альтдорфе (20 км от Нюрнберга), земля Бавария;

— участники программы будут работать в доме инвалидов;

— в обязанности волонтёра входит работа по уходу за инвалидами, а также организации их досуга;

— рабочее время составляет 40 часов в неделю;

— участник ежемесячно получает карманные деньги, приблизительно 200 Евро;

— обеспечивается бесплатным питанием и проживанием, а также медицинской страховкой;

— Вам также предоставляется оплачиваемый отпуск на 26 рабочих дней.

***Дополнительная информация по телефону: (017) 284-08-81. Контактные лица: Ярослав Олейник и Валерий Семенович.***

# Што збярэ прыхільнікаў болей — дзень дурняў ці дзень волі?



"Беларуская маладзёжная" віншуе нязломнага бунтара і вечна маладога душой нонканфарміста Валерыя Шчукіна з шасцідзесяцігоддзем.

Мы ведаем Вас з розных бакоў — як журналіста, марскога афіцэра, былога дэпутата, палітвязня... І проста — сапраўднага чалавека, які заўжды не баяўся мець сваё меркаванне.

Сёння мы шчыра жадаем Вам самага найлепшага. Каб сябры не здраджвалі ў цяжкую хвіліну. Каб у жыцці заўжды заставалася месца не толькі на змаганне, але і на каханне. І каб цеплыня блізкіх сагравала яшчэ доўгія гады. А што ў барацьбе за свае прынцыпы вы выйдзеце пераможцам – мы нават не сумняваемся.

Happy birthday to you!

З павагай і сяброўскім прывітаннем, калектыў "Беларускай маладзёжнай"

# Усатая маска грозит покалечить биографии

**В Шкловском районном суде юношей из незарегистрированного молодежного движения «Зубр» обвинили в оскорблении президента Республики Беларусь. Парням «светило» до трех лет тюремного заключения. «Обошлось» большими штрафами и потерей студенческого статуса.**

Все началось в августе прошлого года. В деревне Городец, примечательной лишь тем, что в ней находится совхоз, в котором некогда директорствовал Александр Лукашенко, пятеро парней провели перфоманс из серии «Время убирать!». Облачась в усатые маски, Михаил Киселев, Максим Потупчик, Александр Павлович, Денис Сенокосов и Дмитрий Шалашков наведывались в местные магазины, где проводили «предвыборную агитацию» среди покупателей. Посетителям магазинов щедро раздавались клятвенные обещания о зарплате в 100 долларов, о снижении цен и о намерении пересажать всех жуликов, предпринимателей, а также тех, кто не будет голосовать за земляка. Карнавал пресекли местные представители правопорядка, которые умудрились в усатых масках опознать кандидата в президенты, то есть бывшего директора совхоза. Люди с богатым воображением не только довели дело до суда, но и признали юношеские шалости политическим актом.

Местная Фемида осталась не только слепа, но и глуха ко всем приводимым во время судебного разбирательства доводам. Присутствовавший в качестве свидетеля на суде искусствовед, сотрудник журнала «Мастацтва» Юрий Борисевич охарактеризовал действия молодых людей как художественную акцию, не несущую политической подоплеки. Однако судья Холодцова признала активистов «Зубра» виновными в оскорблении чести и достоинства президента и наложила на участников перфоманса крупные денежные штрафы. Несовершеннолетние Максим Потупчик и Александр Павлович должны заплатить по 20 минимальных заработных плат, а Михаил Киселев, Дмитрий Шалашков и Денис Сенокосов — по 100. Причем государственный обвинитель Ирина Алданова требовала наказания в 200 минимальных заработных плат.

Впрочем, злоключения для одного из участников скандального судебного процесса с вынесением приговора не закончились. Руководство Могилевского политехнического техникума, в котором проходил обучение Александр Павлович, также проявило принципиальность. Созванный 12 марта педагогический совет означенного учебного заведения вынес решение об исключении А. Павловича из списков студентов. Решение педсовета было поддержано и комиссией по делам несовершеннолетних Ленинского района Могилева.

Инициатором исключения Александра Павловича и Александра Калиты, также обучавшегося в МПТ (Калита известен как активист Молодежи ОГП, несколько раз задерживался за распространение листовок) стал директор политехникума Александр Николаевич Шаптица. Руководитель учебного заведения отрицает какую бы то ни было политическую причину отчисления ребят из техникума: мотивом для расставания со студентами послужила их неуспеваемость. По словам А. Шаптицы, у А. Павловича шесть задолженностей из девяти предметов, а у А. Калиты — 2 из 9. А то, что это решение совпало с вынесением судебного приговора в Шклове, означает лишь, что как раз в это время завершилась сессия. Кстати, директор политехникума заверил, что его бывшим подопечным была предоставлена возможность ликвидировать неуспеваемость по графику отработок и сдачи задолженностей. «На педсовете на вопрос, почему же они не сдали необходимые дисциплины, молодые люди отвечали, что они не успели и поленились», — пояснил Александр Николаевич.

«Преподаватели не допустили нас до сессии, — утверждает Александр Павлович, с которым мы связались сразу после вынесения комиссией по делам несовершеннолетних подтверждения об его отчислении из Могилевского политехникума. — Зачетную сессию мы практически выполнили, но экзамены принимать у нас отказались». Сейчас у Александра выбор не велик. С его образованием в 9 классов перед ним лишь одна перспектива — вечерняя школа. Но переживаний по поводу отчисления у «зубренка» немного, по его словам, душа к политеху у него с самого начала не лежала, просто не знал, куда пойти, ткнул пальцем в небо и оказался... Так что роковое событие может обернуться счастливой случайностью обретения человеком своего истинного призвания. После вечерней школы юноша собирается посвятить себя или юриспруденции, или экономике. Только вот мама, Валентина Викторовна, сильно расстроена — все сразу навалилось: и суд, и отчисление сына. Да и до этого жизнь не слишком баловала — приходится практически одной поднимать двоих детей, муж в результате полученной травмы инвалид. А теперь вот, как казалось, пристроенный сын опять как бы не у дел, ведь вечерней школы в Шклове нет — как опять в Могилев отправлять? Каким образом обеспечить жильем и хоть какой-нибудь работой?

У всех в этой истории своя правда: одни отстояли честь усатой маски, другие — принципы педагогики... И побывавшие под судом ребята наверняка не пропадут — жизнь у них впереди долгая, будет что вспомнить.

Вот только маму жалко...

И. Славникова, «БМ»

# Забытое старое?

Председатель Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько обратился с письмом к руководству Гомельского университета. В обращении говорится, что ОГП располагает конкретными фактами, свидетельствующими о том, что в отношении студентов Гомельского университета, сотрудничающих с общественным объединением «Гомельские инициативы», в настоящее время осуществляется прессинг со стороны спецслужб. В документе утверждается, что студентов вызывают в помещения деканатов университета, где с ними проводят собеседования совместно с работниками КГБ.

«Подобная практика чревата непредсказуемыми последствиями. После смерти Зайцева мы не имеем права на повторение случившегося. Любое, даже косвенное содействие преступлению аморально», — подчеркивает А. Лебедько.

Объединенная гражданская партия призывает руководство, профессорско-преподавательский состав Гомельского университета «воздержаться от содействия в превращении вуза в место для политической вербовки, в полигон для психологической обработки студентов», — говорится в обращении к руководству гомельского университета.

Соб. инф.

# Памірай за прэзыдэнта!

Бясплатная мэдыцына, як сцьвярджала ўсе гады савецкая прапаганда, — наша галоўная заваёва. А як сцьвярджаў сатырык Жванецкі, "па бегу на вынік пазнаеш спорт, па бегу за вынікам — імпартныя боты, па бегу бяз выніку — бясплатнае лячэньне".

Сьмех сьмехам, але кожны з нас бадай успомніць, як ён удзячны дактарам, што за жабрацкі заробак часам выцягваюць нас і нашых блізкіх амаль што з таго сьвету. І дзяржава, што крычыць аб "клопаце пра кожнага чалавека", па ідэі мусіць насіць на руках цудатворцаў у зношаных белых халатах. Ды на справе атрымліваецца наадварот. Калі чытаеш інфармацыю ад НДА, што даюць зьвесткі толькі па Магілёўскай вобласьці, валасы ўстаюць дыбам. Далей — толькі факты.




Першы. На мінулым тыдні ў Магілёве адбываўся беспрэцэдэнтны страйк на мясцовай станцыі хуткай дапамогі. Тры дзесяткі кіроўцаў машын хуткай дапамогі абвесьцілі, што ня выйдуць на працу, пакуль ім ня выплацяць заробкі за два апошних месяцы. У сярэднім кожны з іх атрымлівае зарплату, эквівалентную 36 амерыканскім далярам за месяц. І таму двухмесячная затрымка істотна адгукнулася за сямейных бюджэтах людзей.

Страйк мог скончыцца ў першы ж дзень. Кіроўцы згадзіліся, каб на лініі працавалі некалькі брыгад экстранай кардыялагічнай дапамогі, а гарадзкое начальства паабяцала, што да вечара ўсё выплаціць. Але не зрабіла гэтага. І наступным ранкам гісторыя паўтарылася па больш жорсткім сцэнары: цяпер ужо ніводная машына хуткай дапамогі на лінію ня выйшла. Калі нехта выклікаў мэдыкаў, то прапаноўвалася прыяжджаць за дактарам на сваім транспарце і адвозіць потым назад...

Другі факт. На тым жа тыдні жыхары горада Бялыніцы ўсё той жа Магілёўскай вобласьці развіталіся з дзевяцігадовай дзяўчынкай, якая памерла ад грыпу. Спачатку хворай прапісалі амбулаторнае лячэньне, а калі стан рэзка пагоршыўся, засталося толькі змагацца за жыццё дзіцяці. Беспасьпяхова...

Трэці факт. У мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў плянуецца зачыніць філіял раённай паліклінікі БСДГА, на абслугоўваньні ў якой знаходзіцца больш за дзесяць тысяч дарослых і звыш тысячы дзетак. Але другой крыніцы эканоміі бюджэтных сродкаў у горадзе няма. Дый зараз хварэць у Горках праблематычна — за месяц знаходжаньня ў стацыянары хворы мусіць заплаціць двайны месячны заробак — 200 тысячаў рублёў(!).

Чацьверты факт. У Крычаве ўсе мэдыцынскія сёстры Чырвонага Крыжа адпраўленыя ў адпачынак за свой кошт. Адзінаццаць зь іх не атрымлівалі налічанай зарплаты з пачатку году — спынілі фінансаваньне па міжнароднай праграме. Чырвоны Крыж істотна дапамагаў афіцыйнай мэдыцыне ў доглядзе за хворымі...

Факты надакучылі? Пачакайце!

Пяты і апошні. Кіраўнік дзяржавы Аляксандар Лукашэнка адпачыў і паправіў здароўе ў Аўстрыі. Як падлічыла "Народная Воля", толькі транспартныя выдаткі складаюць блізу 18 тысяч — не родных беларускіх рублёў, а канвэртуемых эўра...

Якія тут яшчэ камэнтары? Можна справядліва абвінаваціць кіроўцаў машын магілёўскай "хуткай" — ня маючы шанцаў накарміць свае сем'і, яны наважваюцца на амаральны крок. Можна пасумаваць з нагоды сьмерці малагадовай дзяўчыны і верыць, што трагедыя адбылася не таму, што падкачала кволая і абрабаваная мэдыцына. Толькі хто ў апошнія гады ляжаў нават у сталічнай бальніцы (не кажучы пра рэгіёны) — зразумее праўду.

Можна, нарэшце, забыцца пра тое, што ў апошнія месяцы дзяржава ставіць стратэгічнай мэтай зарабіць у дзіравы бюджэт на ўсім, чым можна. І з гэтай мэтай выцягвае грошы адусюль, ня грэбуючы нават галінамі сацыяльнай падтрымкі...

Калі задацца мэтай апраўдаць дзяржаву, патлумачыць можна ўсё. А можна проста прааналізаваць факты.

Якая будзе высноўа? Разумее кожны. Таму стаўлю вялізнае шматкроп'е: ...

А. Панкратаў, для "БМ", фота IREX/ProMedia

*(захаваны правапіс арыгіналу)*

# Не даюць хаваць канцы

**Беларуская асацыяцыя журналістаў прыкладае ўсе намаганні, каб не даць "пахаваць" справу зніклага аператара ОРТ Зміцера Завадскага.**

Варта нагадаць, што на мінулым тыдні так званай "бандзе Ігнатовіча" быў вынесены прысуд — вялікія турэмныя тэрміны, у тым ліку і пажыццёвае зняволенне. Улады лічаць, што апрэч іншых злачынстваў менавіта гэтыя людзі маюць дачыненне да выкрадання і бясследнага знікнення журналіста.

Але ёсць і іншы пункт погляду. Паводле яго, справа знікнення Завадскага шчыльна злучаная з выкраданнем палітыкаў Ганчара і Захаранкі. Лічаць, што на банду Ігнатовіча справу проста звалілі, каб "схаваць канцы ў ваду".

Такой думкі прытрымліваецца нават жонка самога Зміцера Завадскага і яе адвакат. Колькасць "белых плямаў" у справе сапраўды пакідае неадназначнае ўражанне.

Па меркаванні нязгодных, судовае разбіральніцтва па справе Завадскага, якое 14 сакавіка завяршылася вынясеннем прысуду групе былога «алмазаўца» Ігнатовіча, так і не знайшло канчатковых адказаў на пытанні: што здарылася з Завадскім, дзе ён, хто арганізаваў і здзейсніў злачынства?

БАЖ звярнулася да пракуратуры з патрабаваннем аб дадатковым расследаванні справы аб знікненні Зміцера, які з'яўляецца сябрам асацыяцыі.

## УВАГА: КОНКУРС!

Ініцыятыва Х. Барта (Вайнгартэн, Германія) пры падтрымцы магілёўскага грамадскага аб'яднання «Кола сяброў» і студэнцкай ініцыятывы ў падтрымку нямецкай мовы «Mach mit!» аб'яўляе конкурс «Мой родны горад», прысвечаны Магілёву.

На конкурс прымаюцца: сачыненні, насценныя газеты, відэафільмы і інтэрнэт-сайты на англійскай і нямецкай мовах, прысвечаныя Магілёву. Тэрмін падачы работ — да 15 мая. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца школьнікі, навучэнцы каледжаў і ліцэяў, а таксама студэнты ВНУ, якія цікавяцца гісторыяй свайго горада. Працы будуць ацэньвацца ў двух узроставых групах: школьнікі, навучэнцы і студэнты. Вынікі конкурсу будуць падведзены 31 мая 2002 года. Пераможцы будуць узнагароджаныя каштоўнымі прызамі і падарункамі. Вашы працы — вашы новыя кантакты з Германіяй.

**Работы дасылаць на адрас: 212022, Магілёў, а/с 14; e-mail: gvozdeva@krug.unibel.by.**

• Беларусь у Еўропу!

# Толькі Шклоў не хоча ў Еўропу

**Кампанія «Беларусь у Эўропу!» ужо месяц крочыць па краіне, колькасць ахопленых гарадоў на гэтым тыдні пераваліла за трэці дзясятак, дзея ўражвае масавасцю і рэгулярнасцю правядзення акцыяў. Назваць гэтае шэсце ў Еўропу пераможным? Але самі ведаеце, у якой краіне мы з вамі жывем. Між іншым, некаторыя вынікі пасля пройдзенай трэцяй часткі шляху (кампанія доўжыцца да траўня), па словах кіраўніка Маладога Фронту Паўла Севярынца, абнадзейваюць.**

— Мэта акцыі — давесці Еўропе і ўсяму свету, што беларуская моладзь не жадае саюзу з Расіяй, не жадае бачыць расійскі рубель у якасці нацыянальнай валюты, не жадае бачыць тут «руку Масквы» і ўсталяванне імперыі ў самым горшым выглядзе. Моладзь хоча, каб Беларусь была незалежнай, вольнай і еўрапейскай краінай. Мы прымушаем грамадства аналізаваць, заахвочваем моладзь да думання, дзеяння, бо пасля выбараў усё грамадства і асабліва моладзь знаходзіліся ў нейкай дэпрэсіі.

Нават па самых цяжкіх і горшых рэгіёнах — а гэта Чарнобыльскія раёны на Магілёўшчыне і Гомельшчыне, а таксама блізкія да Расіі і, адпаведна, русіфікаваныя вобласці — паводле цікавасці да кампаніі, сацыялагічных апытанняў, водгукаў зразумела, што абсалютная большасць моладзі выступае за еўрапейскую перспектыву. За саюз з Расіяй, расійскі рубель, Лукашэнку і гэтак далей — ад чвэрці да трэці апытаных максімум.

Што цікава, чым бліжэй да Цэнтральнай Беларусі — тым больш лагоднымі да нашых акцыяў робяцца ўлады. І па сацыялагічных апытаннях, і па тых акцыях, якія мы праводзім, бачна, што энтузіязм моладзі ўзрастае. Прыемна зазначыць, што ў сярэдняй Беларусі, на сярэднім усходзе, далей ад радзімы Лукашэнкі, на Віцебшчыне, Гомельшчыне і Міншчыне было некалькі выпадкаў супрацоўніцтва з мясцовымі ўладамі — нам дазвалялі праводзіць апытанні ў тэхнікумах, заплюшчвалі вочы на тое, што праводзіцца відавочная нацыянальная кампанія ў класах і актавых залах установаў і нават на цэнтральных плошчах гарадоў і мястэчкаў — міліцыянты падыходзілі, цікавіліся, паціскалі плячыма і адыходзілі. З не вельмі прыемных нечаканасцяў — у Бабры маладафронтаўцы нарваліся на групоўку РНЕшнікаў. Але пасля невялікай дыскусіі і абсалютна без прымянення фізічная сілы РНЕшнікі адказалі на пытанні маладафронтаўскай анкеты і ўнеслі такім чынам свой ўнёсак у сацыялагічнае апытанне па ўсёй Беларусі.

***— Па рэгіёнах ездзілі мінскія актывісты Маладога Фронту ці акцыі ладзяцца ўласнымі сіламі рэгіянальных аддзяленняў арганізацыі?***

— Мінскія актывісты выконвалі функцыю кур'ераў — дастаўлялі матэр'ялы ў той ці іншы горад, прымалі ўдзел у акцыях у якасці інструктараў, але на 99% акцыі ладзіліся сіламі рэгіянальных структураў Маладога Фронту. Наогул мы можам правесці падобную акцыю практычна ў любым гарадку ці мястэчку Беларусі, бо на сёння Малады Фронт (непрызнаны Мінюстам — *рэд.*)— найбуйнейшы апазіцыйны маладзёвы рух, мы ахопліваем сваім уплывам больш за 100 гарадоў. І тое, што зараз бачная наша пазіцыя, што яна тлумачыцца, пра яе распытваюць, абмяркоўваюць, што, чаму і як адбываецца ў гэтай краіне — гэта тая самая «чарнавая праца», якой так не хапала ў час перадвыбарчай кампаніі і паміж выбарамі.

***— Ці ёсць нейкія станоўчыя вынікі менавіта для Маладога Фронту як для моладзевай арганізацыі, можа, вы пашырылі свае шэрагі за кошт гэтых акцыяў?***

— Безумоўна, мы пашырылі свае шэрагі. Таму нашыя структуры будуць адназначна больш моцныя, чым да гэтай кампаніі. Разам з тым кампанія «Беларусь у Эўропу!» прынесла яшчэ шэраг перавагаў — хутка мясцовыя выбары, і мы вызначаемся з папулярнасцю маладзёвых аб'яднанняў. Па апытаннях і па эфекту ад акцыяў мы бачым, што Малады Фронт у стане канкураваць з БПСМ, а сярод недзяржаўных маладзёвых аб'яднаняў — адназначна лідыруе на Беларусі.

***— Ці былі вам перашкоды з боку мясцовых уладаў?***

— Практычна ў палове гарадоў было такое, збольшага ціхае, супрацьстаянне, гучныя выпадкі агульнавядомыя: у Мінску разагналі шэсце, у Горадні былі арышты, і ў Гомелі падчас правядзення акцыі «Беларусь у Эўропу!» адбыліся затрыманні. Кепская сустрэча, але не з боку ўладаў, а з боку мясцовых жыхароў была ў Шклове — ледзь не дайшло да бойкі. Шклоўцаў чамусьці абурала і беларуская мова, і лозунг «Беларусь у Эўропу!», і бел-чырвона-белыя значыкі, іх абурала ўвогуле назва «Малады Фронт». З апытання, якое было праведзенае ў Шклове з вялікай цяжкасцю, стала відавочна, што прыблізна палова моладзі выступае за Лукашэнку, БПСМ, чыровна-зялёны сцяг — гэта былі самыя горшыя для нас паказчыкі па ўсёй Беларусі. Па шчырасці, мы не чакалі такога ад Шклову, нам здавалася, што ёсць агульныя законы сацыялогіі, але... Напрыклад, у Горках, дзе той жа Лукашэнка вучыўся і, здавалася б, яго пазіцыі таксама павінны быць моцнымі, сітуацыя цалкам адваротная: БПСМ там падтрымлівае толькі 2% моладзі, у Лукашэнкі менш 10% падтрымкі — таму што там студэнты, шмат людзей са сталіцы і ўвогуле можна назваць Горкі універсітэцкім гарадком.

Наогул было вельмі шмат адміністрацыйных забаронаў, напрыклад, у Хоцімску пагражалі ўсім школьнікам і студэнтам, якія ўдзельнічалі ў кампаніі, арыштам на 15 сутак. У Клімавічах і Крычаве папросту адміністрацыі тых установаў, з якімі папярэдне былі дамовы наконт правядзення тых ці іншых акцыяў, адмаўляліся прадастаўляць памяшканне і супрацоўнічаць у правядзенні апытанняў. У выніку шмат якія мерапрыемствы праводзіліся ў скарочаным фармаце, бо пачаткова мы збіраліся ахапіць і навучальныя ўстановы, і дзяржустановы, мы супрацоўнічалі з тым жа БСМ-ам — у шэрагу раёнаў Беларусі з гэтай структурай можна супрацоўнічаць.



***— За той месяц, які ідзе кампанія, ці была нейкая рэакцыя з боку еўрапейскіх арганізацыяў, можа, наладзіліся нейкія новыя кантакты?***

— З Еўропай у нас сапраўдны прарыў — па-першае, нас падтрымала найбуйнешая еўрапейская студэнцкая арганізацыя ІДЭАС (еўрапейскія дэмакратычныя студэнты), яны падтрымалі нас менавіта з нагоды кампаніі «Беларусь у Эўропу!». Нас нарэшце прынялі пасля палутара гадоў перамоваў у найбуйнейшую хрысціянска-дэмакратычную кансерватыўную супольнасць еўрапейскай моладзі (YEPP— моладзь еўрапейскіх народных партыяў). Дарэчы, на сёння гэта самая ўплывовая палітычная маладзёвая арганізацыя. Еўрапейская народная партыя мае большасць у Еўрапарламенце, і вельмі шмат еўрапейскіх палітыкаў літаральна захопленыя кампаніяй «Беларусь у Эўропу!», некаторыя з іх ужо даслалі свае прывітанні з гэтай нагоды. Ну і нарэшце нас падтрымала некалькі ўплывовых палітыкаў з Польшчы, Чэхіі, нават з Расіі, яны выказалі сваё стаўленне да рэжыму Лукашэнкі і сваю падтрымку дэмакратычным і незалежным памкненням беларускай моладзі. Мы атрымалі некалькі багажоў з еўрапейскімі сувенірамі: бралокі, сумкі, налепкі, асадкі, буклеты з еўрапейскай сімволікай, якія прыйшлі нам у дапамогу ўжо не праз цэнтральную еўрапейскую рассылку, а вакольнымі шляхамі — яны зараз раздаюцца па ўсёй Беларусі. І гэта таксама падтрымка ўжо ў такім самым наяўным выглядзе.

***— Скажы, калі ласка, апошнія падзеі вакол тваёй сям'і ў Віцебску, дзе за твой штраф апісалі бацькоўскую маёмасць, ці не выб'юць цябе з шэрагу барацьбітоў?***

— Ні ў якім разе. Калі не спалохалі мяне ні Валадаркай, ні адсідкамі, ні дубінкамі, ні чымсьці іншым, і гэтым не спалохаюць. Я думаю, што яны вымушаныя будуць адступіцца па гэтай справе. Тым не менш, мы выдатна разумеем, што мы змагаемся за незалежнасць у краіне, дзе дзейнічае аўтарытарны рэжым і няма ніякай дэмакратыі, таму трэба чымсьці ахвяраваць. Асабіста я ў гэтай справе іду да канца, і я ведаю, што вельмі многія маладафронтаўцы гатовыя аддаць жыццё за ідэю, за Беларусь, за духовае адраджэнне, і мы перакананыя ў тым, што мы пераможам.

Размаўляла
Наталля Кожурава, «БМ»

**Кампанія "Беларусь у Эўропу!" набліжаецца да захаду і дойдзе да Мінску на мяжы сакавіка і красавіка. Якраз у гэтыя дні Малады Фронт плануе зладзіць у сталіцы некалькі цікавых падзеяў. 30 сакавіка маладафронтаўцы ладзяць "Акцыю эўрапейскай чысціні" — па дамове з мясцовымі ЖЭСамі ў кожным раёне маладафронтаўцамі будзуць прыбраныя ад смецця вуліцы, якія маюць беларускія назвы, прынамсі вуліцы Багдановіча, Старажоўская, Асіповіцкая і г.д.. Такая ж акцыя пройдзе і ў Лошацкім парку. Па словах Паўла Севярынца, "акцыя будзе не такой банальнай і трывіяльнай, як гэта звычайна робіць БПСМ. Усё будзе арыгінальна і прыкольна".**

**Як вядома, 2 красавіка афіцыйна аб'яўлены днём яднання з нашым усходнім суседам, і ў гэты дзень Малады Фронт праводзіць акцыю "Беларусь у Эўропу!" у сталіцы. Гэта будзе сапраўдны каскад акцыяў, якія будуць праходзіць з самай раніцы да вечару. Менавіта да акцыі "Беларусь у Эўропу!" Еўрапейская камісія перадала на Беларусь вялікі набор спецыяльных кампакт-дыскаў, якія распавядаюць пра Еўропу, Еўрасаюз, еўрапейскую валюту, рознае іншае. Гэтыя кампакт-дыскі будуць перададзеныя Маладым Фронтам ў бібліятэкі, у тым ліку навучальных установаў. Таксама па навучальных установах — універсітэтах, інстытутах і школах — будзе адбывацца раздача еўрапейскіх матэр'ялаў і сувеніраў ад Еўракамісіі, пройдуць віктарыны на еўрапейскую тэматыку. Увечары ў цэнтры Мінску адбудзецца вулічная акцыя, касцюмаваная з элементамі карнавалу, на якой Малады Фронт абяцае выкарыстаць усе тыя напрацоўкі, якія былі запланаваныя на 14 лютага, але не былі выкарыстаныя з-за таго, што акцыя была фактычна перакрытая ўладамі.**

# ОГП — детям чернобыльской зоны

24-25 апреля, в дни очередной, уже 16-й годовщины катастрофы на Чернобыльской АЭС, группа руководителей Объединенной гражданской партии во главе с Анатолием Лебедько совершит поездку по пострадавшим от последствий трагедии регионам Беларуси. Будут посещаться школы, детские дома, а также сельские библиотеки. Цель поездки, прежде всего, благотворительная: детям из пораженных радиацией населенных пунктов политики передадут собранные ими книги. К этой гуманной акции может присоединиться любой желающий, ведь в каждом доме наверняка найдется десяток-другой неплохо сохранившихся детских книжек. Впрочем, подойдет не только детская, но и любая хорошая литература. Подарить хоть немного радости обделенным судьбой мальчишкам и девчонкам можно, передав книги в Исполком ОГП. А как это сделать, подскажут по телефонам 211-02-79 и 227-58-39.

Пресс-служба ОГП. www.ucpb.org

# Гарачая вясна пачынаецца з "халоднай"



У мінулую пятніцу жыхары Мінску маглі назіраць распачатак "гарачай вясны" — на Дзень Канстытуцыі некалькі сотняў дэманстрантаў прагуляліся па вуліцах ля Камароўкі і рассеяліся перад узмоцненым кардонам байцоў з унутраных войскаў. Нягледзячы на мірны характар дэманстрацыі (ніхто ні з кім не біўся), яе арганізатару Міколу Статкевічу ўсё адно "прыпаялі" адміністрацыйны арышт.

Статкевіча затрымалі амаль адразу пасля заканчэння вулічнага хэпенінгу. На офіс партыі зайшлі два міліцыянты, што прапанавалі небараку павестку ў РАУС і транспарт — два міліцэйскіх легкавікі ды аўтобус з людзьмі ў камуфляжы. Пасля трохдзённай адсідкі Статкевіча даставілі ў суд, дзе лідэр БСДП "Народная грамада" даведаўся, што на нарах давядзецца правесці яшчэ тыдзень — каб "даматаць" прызначаныя дзесяць сутак.

Ул.інф.

# Дзень Волі ў Гомелі — разам з рыцарамі

**Дзень Волі ў Гомелі будзе адзначацца музычным рыцарскім шоу**

Маладзёжны цэнтр «Гарт», гурт старажытнай музыкі «Стары Ольса» і гістарычны клуб «Сцяг Алега Святаславіча» падрыхтавалі святочную імпрэзу для жыхароў горада. У праграме: сярэднявечныя танцы, творы беларускіх кампазітараў XVI-XVII стст., старажытны беларускі фальклор. Рыцары прадэманструюць зброю і строі X-XIII стст., зробленыя сваімі рукамі.

Гістарычны клуб «Сцяг Алега Святаславіча» — клуб дружыннай баярскай культуры X-XIII стст. Ён названы ў імя Ноўгарад-Северскага князя, у чыё княства ўваходзіў і Гомель. Даўняе сяброўства звязвае гэты клуб з гуртом «Стары Ольса», лідэр якога Зміцер Сасноўскі паходзіць з Гомеля і зараз запісвае там свой новы альбом.

«Дзень Волі — гэта тое свята, якое мы хочам адзначыць разам у прыемнай атмасферы і зрабіць падарунак жыхарам нашага горада, а нашы рыцары і музыкі зробяць гэта на належным узроўні», — зазначылі сябры «Гарта».

Пачатак вечарыны а 18.00 у памяшканні Дома культуры па вул. Юбілейная, 48 («Глушкі»).

BARC

